**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 53 (821) 31 снежня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**



*Віншуем з Новым 2016 годам!*

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



Навагодняе Глыбокае!



*Фота Ул. Скрабатуна.*





### Віцебскі раён

# За пакупкамі да віцяблян

■ Станіслаў Раманчук.

**Па ўсёй Еўропе напярэдадні калядных і навагодніх святаў назіраўся асаблівы пакупніцкі ажыятаж, у шматлікіх сучасных гандлёвых цэнтрах і галерэях было вельмі ажыўлена.**

Нешта падобнае можна было таксама бачыць паблізу Віцебска, дзе днямі адкрыўся першы ў вобласці буйны лагістычны цэнтр холдынга "Марко" і яго цэнтр распрадаж "Outlet". Гэты прыгожы будынак вялізных памераў размясціўся на выездзе з абласнога цэнтра ў бок Бешанковіч. Узвялі яго будаўнікі роўна за год, а ў адным лагістычным цэнтры можа знаходзіцца цяпер да мільёна пар абутку, які выпускае вядучая ў краіне прыватная скура-абутковая кампанія. Цэнтр масавых распрадаж на двух паверхах – таксама ўнікальны пакуль аб'ект у Беларусі з таварамі лёгкай прамысловасці. Тут са значнымі скідкамі можна набыць не толькі разнастайныя мадэлі абутку, але і больш таннае адзенне брэндавых фірм. У першыя дні работы комплекса ля ягоных кас назіраліся вялізныя чэргі, бо дзе яшчэ знойдзеш краму, каб там прадаваліся модныя зімовыя боцікі за меней чым 300 тысяч рублёў. У цэнтры распрадаж гендырэктар "Марко" Мікалай Мартынаў паабяцаў, што тут будуць прадавацца і навінкі ягоных фабрык, і абутак выпуску 2015 года са значнымі скідкамі, як гэта практыкуецца на кантыненце. Акрамя галаўнога прадпрыемства пакупнікам прапануюць мадэлі абутку фабрык "Сан Марко" і "Чырвоны Кастрычнік", сумкі, скурагалантарэйныя вырабы, адзенне мехавой фабрыкі холдынга і прадпрыемства "Вітма".

### Пастаўскі раён

# Адпачынак, які не радуе

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад школьнікаў, зімовыя вымушаныя канікулы зусім не радуюць дарослых, занятых на вытворчасці.**

У працаўнікоў жа Варапаеўскага завода жалезабетонных вырабаў, што ў Пастаўскім раёне, такі прастой можа стаць вельмі працяглым. З-за адсутнасці заказаў адно з асноўных прадпрыемстваў гарпасёлка фактычна спыніла перад навагоднімі святамі сваю дзейнасць. Цікава, што яшчэ некалькі гадоў назад яно разам з суседнім Варапеўскім ДАКам працавала стабільна і рытмічна. Завадчане ў мадэрнізацыю арматурнага цэха, на набыццё новых металаформ, казлавога крана грузападымальнасцю 20 тон уклалі звыш 4 млрд. рублёў. Далейшую перспектыву тут бачылі ў супрацоўніцтве з маскоўскімі фірмамі, занятымі ў сферы будаўніцтва, і ў вырабе для расіян апор ліній электраперадач. Аднак, сур'ёзны эканамічны крызіс у суседняй Расіі і падзенне аб'ёмаў будаўніцтва ўнутры нашай краіны паставілі стаўшым стратным завод на грань выжывання. Звольнілі і ранейшага вопытнага дырэктара завода, але сітуацыя не змянілася, стала далей пагаршацца. Праўда, яшчэ пазалетась з'яўляўся прыватны інвестар, які хацеў займець гэту вытворчасць. Але кіраўніцтва трэста "Полацксельбуд" на супрацоўніцтва з ім не пайшло, а цяпер махнула на завод рукой. Магчыма, толькі прадстаячай вясной на заводзе ЖБВ запусцяць зноў вытворчасць, аднак разлічваць на ранейшыя аб'ёмы заказаў нерэальна.

### Полацкі раён

# Падрастае зорка біятлона

■ Чэслаў Якубовіч.

**Мяркуючы па ўсім, пасля заканчэння кар'еры праслаў–ленай беларускай спартсменкі Дар'і Домрачавай будзе каму пераняць ад яе эстафету дасягненняў.**

Штаб нацыянальнай зборнай Беларусі па біят–лоне ўжо гэтай зімой хацеў уключыць у галоўную каманду таксама Дашу, 19-гадовую ўраджэнку Навапалацка, толькі з прозвішчам Блашко. Але яе трэнер і сама маладая зорачка біятлона папрасілі гэты сезон прадставіць для самастойнай падрыхтоўкі і для выступленняў на этапах пакуль юніёрскага Кубка IBU Міжнароднага саюза біятланістаў. Яна прыйшла ў мясцовую ДЮСШ 10 гадоў назад і спачатку да пераходу ў біятлон чатыры гады займалася лыжнай падрыхтоўкай. Трэнеры заўважылі вялікі патэнцыял гэтай дзяўчыны з рыжымі валасамі, і мінулай зімой на сусветным першынстве ў Раўбічах сярод юніёраў навапалачанка заваявала два залатыя медалі – у спрынце і ў эстафетнай гонцы. Дар'я Блашко ўвайшла па рэйтынгу ў тройку лепшых маладых айчынных спартсменаў і зараз апраўдвае ганаровае званне. Гэта дзяўчына бягучай зімой упэўнена выйграла спрынт ужо на першым этапе юніёрскага Кубка IBU у Аўстрыі. Перад Новым годам маладая беларуска зноў вызначылася на чарговым этапе спаборніцтваў на трасах італьянскага гарадка Мартэлл-Валь Мартэлло. Яна аднойчы прамахнулася там, заваявала сярэбраны медаль, але ў агульным заліку Кубка свету сярод юніёрак выйшла на першае месца з адрывам ад бліжэйшай саперніцы на 49 ачкоў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 31.12.15 | | | | Пятніца 01.01.16 | | | | Субота 02.01.16 | | | | Нядзеля 03.01.16 | | | | Пан. 04.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -5 | -5 | -4 | -6 | -6 | -6 | -6 | -8 | -9 | -9 | -8 | -10 | -10 | -9 | -8 | -10 | -11 | -11 | -9 |
| Ціск | 763 | 762 | 761 | 760 | 759 | 758 | 758 | 759 | 760 | 761 | 760 | 758 | 756 | 752 | 751 | 750 | 749 | 748 | 746 |
| Вецер м/сек | 3 В | 2 В | 3 С-В | 4 В | 4 В | 5 В | 4 В | 5 В | 5 В | 4 С-В | 4 С-В | 4 С-В | 2 С-В | 1 С-З | 4 Ю-З | 5 Ю | 5 Ю | 3 Ю | 1 Ю-З |
| Вільготнасць | 72 | 78 | 64 | 75 | 69 | 63 | 51 | 52 | 78 | 68 | 53 | 63 | 70 | 79 | 77 | 83 | 81 | 84 | 71 |

## Аб самым надзённым

# ПРАЖЫЛІ НЯПРОСТЫ ГОД, АЛЕ І НАСТУПНЫ 2016 ГОД ПРЫНЯСЕ БЕЛАРУСАМ НОВЫЯ ВЫПРАБАВАННІ І ЦЯЖКАСЦІ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Цяпер жыццё такое, што пазітыўныхнавін рэдка калі пачуеш. Праўда, адна такая ўсё ж з'явілася, бо прадстаўнікі дэлегацыі ЕС у Мінску пацвердзілі, што пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму з Беларуссю гатова да падпісання.**

Людзі старэйшага пакалення добра памятаюць, што раней, за савецкім часам, у паўсядзённым жыцці ўсё ж была нейкая ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Цяпер на двары ўжо XXI стагоддзе, сучасныя будні і норавы сталі іншыя, а аб мінулым нагадваюць нам хіба што прасавецкія назвы вуліц і плошчаў, шматлікія помнікі бальшавіцкаму ідалу побач з адроджанымі хрысціянскімі храмамі. Зараз ужо ніякай упэўненасці ў будучым няма, наадварот трывожна, каб заўтра яшчэ горш не стала. Але, як бы справы кожнага з нас не складваліся, аб'ядноўвае ўсіх, што мы ўжо пражылі складаны і няпросты 2015 год.

Шчыра кажучы, Беларусі не ўдалося сёлета забяспечыць, як хацелі ўлады, дынамічнае развіццё сваёй эканомікі, выканаць намечаныя прагнозныя паказчыкі. Кіраўнікі вышэйшага ўзроўню абяцалі суайчыннікам у гэтай пяцігодцы наблізіць сярэднюю зарплату да не меней 1 тысячы долараў у месяц і стварыць набліжаны да еўрапейскага ўзровень жыцця, атрымаць інфляцыю напрыканцы года на ўзроўні 6-7%, крэдыты на жыллё вярнуць па 16% гадавых. Яшчэ летась напрыканцы восені тагачасная глава Нацбанка Надзея Ермакова так упэўнена прагназавала сёлета сярэднегадавы курс рубля на ўзроўні 11300-11400 рублёў за долар. Зразумела, ад такіх выказванняў і абяцанняў цяпер нічога не засталося, аднак на выніках прайшоўшых прэзідэнцкіх выбараў гэта ніяк не адбілася.

У нашай краіне ўжо відавочна, што працягваецца ўсеабдымны і сістэмны крызіс. Праўда, у нашых заходніх суседзяў-прыбалтаў, палякаў і далей у немцаў, французаў чамусьці ніякага крызісу ў паміне няма. Наадварот, ва ўсіх іх сёлета пачаўся эканамічны рост. Беларусы выбралі для сябе ўсходні накірунак партнёрства і, падобна на тое, што памыліліся. Членства Беларусі ў праславутым Еўразійскім саюзе нам прыносіць адны толькі праблемы. Сёлета значна знізіўся на трэць наш знешні гандаль з дзяржавамі ЕАЭС, а з Расіяй ён зменшыўся нават на 6 млрд. долараў. Рускім, а ўслед за імі і беларусам, вылазіць бокам пуцінская авантуры тыпу "Крым наш", "Наваросіі ў Данбасе", а цяпер і ваенная аперацыя ў Сірыі.

Нашых суседзяў на бяскрайніх расійскіх прасторах напрыканцы года зноў засмуціла падзенне цэн на нафту да ўзроўню 2009 года. Услед за гэтым абваліўся рускі рубель, наш беларускі таксама будзе слабець. На гэтым фоне адносіны Крамля і афіцыйнага Мінска зноў пагоршыліся. Як вядома, Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця (яго кантралюе Расія) зноў адклаў выдзяленне нам патрэбнага "крэдыту на стабільнасць", хоць беларусы зменшылі суму з 3 да 2 млрд. долараў. Ды і ўнутры айчыннай банкаўскай сістэмы ў мінулым месяцы здарыўся казус: укладчыкі забралі з беларускіх банкаў 1,4 трлн. рублёў.

Хоць сёлета рэальныя даходы беларусаў і памеры пенсій зменшыліся, рост цэн дасягнуў у пачатку снежня 10,7%. Праўда, па гэтаму паказчыку нас на гэты раз апярэдзілі рускія з інфляцыяй больш 12%. Аднак няма чаго радавацца чужому гору, бо за пару тыдняў да каталіцкіх Калядаў у Беларусі курс еўра перавысіў рубеж 20 тысяч рублёў. Цяпер жыццё такое, што пазітыўных навін рэдка калі пачуеш. Праўда, адна такая ўсё ж з'явілася, бо прадстаўнікі дэлегацыі ЕС у Мінску пацвердзілі, што пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму з Беларуссю гатова да падпісання. Аднак у мяне ёсць апасенне, што такі крок нашы чыноўнікі будуць сабатаваць.

Але як бы там ні было, адыходзячы год неўзабаве стане здабыткам гісторыі, а наступаючы 2016, на жаль, перамен да лепшага не прынясе. У снежні беларусам павысілі камуналку, на чарзе – павышэнне тарыфаў на праезд у грамадскім транспарце. Каб спыніць бясконцы рост цэн у магазінах, Міністэрства гандлю ўвяло мараторый на павышэнне цэннікаў на тавары падчас пераднавагодняга гандлю. Аднак тут ёсць новая бяда, бо пасля выбараў зноў пачалі расці даўгі па зарплаце, а разлічваць на рост заробкаў у будучым годзе таксама з-за крызіса не выпадае.

Яшчэ напрыканцы года стала вядома, што ў пачатку будучай восені беларусам зноў прыйдзецца выбіраць, на гэты раз дэпутатаў ніжняй палаты беларускага парламента. Народным абраннікам быць прэстыжна. Аднак у паўсядзённым жыцці – гэты дзяржорган – не самы важны, асноўныя праблемы краіны вырашае правячая "вертыкаль". У 2016 годзе асаблівых змен да лепшага беларусам не варта чакаць, хібы што ў сярэдзіне лета пачнём атрымоўваць новыя грошы і нават манеты.

Магчыма, налета мы таксама станем сведкамі таго, што дзеючая дырэктыўная сістэма кіравання эканомікай будзе заменена на індыкатыўную, калі ўрад можа змяняць аператыўна прагнозы сацыяльна-эканамічнага развіцця, зыходзячы з рэальнай сітуацыі на рынках. На нас, як і на Расію, будзе сур'ёзна ўплываць кан'юнктура сусветных цэн на нафту, але відавочна, што Крэмль пастараецца ўтрымаць свайго саюзніка з Беларусі ў русле сваёй знешняй палітыкі і не пакіне без эканамічнай падтрымкі. Пакуль жа ў краіне стартавала дабрачынная пераднавагодняя акцыя "Нашы дзеці", бо заўжды маленькія дзеткі чакалі цудаў і падарункаў на Раства Хрыстовае і на Навагоднія святы.

## Дзень за днём

**Без асаблівага абмеркавання парламент за 58 мінут прыняў дзяржбюджэт-2016. Па ўсёй краіне зіхацяць святочнымі агнямі навагоднія ёлкі. Ужо амаль 60% беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый сталі нерэнтабельнымі. Толькі 262 беларусы з амаль 400 тысяч добраахвотна прызналі сябе дармаедамі. Айчынным прыватным медцэнтрам дазволілі выдаваць бальнічныя лісткі. Карту паляка атрымалі ўжо 140 тысяч грамадзян Беларусі і Украіны. Пачаўся рух вакол Мінску на першым участку МКАД-2. У сталіцы запусцілі таксама сетку высокахуткаснага інтэрнету 4G, яна ахопіць усю Беларусь да 2020 года.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Амерыканскі долар яшчэ больш умацаваў свае пазіцыі ў свеце пасля павышэння Федэральнай рэзервнай службай краіны базавай банкаўскай стаўкі да 0,25- 0,5 %.

**Францыя.** На мясцовых выбарах Нацыянальны фронт прафашысцкага толку на чале з Марын Ле Пен нідзе не перамог у рэгіёнах, але атрымаў 6,8 млн. галасоў падтрымкі.

**Бельгія.** ЕС паведаміў аб планах стварэння Еўрапейскага агентства пагранічнай і берагавой аховы са штатам 2500 чалавек для прадухілення масавага наплыву мігрантаў.

**Украіна.** На працягу месяца, як пацвердзіў прэм'ер-міністр А. Яцанюк, краіна поўнасцю спыніць пастаўкі тавараў у анексіраваны Расіяй Крым і грузаў адтуль наадварот.

**Літва.** У Вільнюсе правялі падключэнне электрасетак краіны да польскіх ліній LitPol Link і шведскіх ЛЭП NordBalt, дагэтуль яны былі ў адзінай энергасістэме з Расіяй і Беларуссю.

**Расія.** Грамадская палата РФ прапанавала забараніць выезд дзяржслужачым на паўгода за граніцу ў сувязі са складанай знешнепалітычнай абстаноўкай і абвастрэння з Турцыяй.

**Украіна.** Для прадухілення магчымага арышту па іску "Нафтагаза Украіны" Расія тэрмінова пад аховай ваенных караблёў эвакуіравала буравыя ўстаноўкі газу з-пад Адэсы.

**Бельгія.** Генеральны сакратар НАТО Й. Столтэнберг заявіў, што ўпершыню У. Пуцін фактычна прызнаўся, што ва Украіне на Данбасе прысутнічаюць рускія ваенныя.

**Расія.** За год ваенная авіяцыя РФ перажыла рэзкі ўсплеск катастроф і аварый: акрамя збітага туркамі бамбардзіроўшчыка Су-24 яна страціла яшчэ 11 баявых самалётаў.

**Польшча.** Паліцыя аштрафавала прэзідэнта Анджэя Дуду за паркоўку яго аўтамабіля ў недазволеным месцы пад вокнамі прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў Кракаве.

**Украіна.** За анты–дзяржаўныя дзеянні і заклікі Акружны адміністрацыйны суд Кіева забараніў поўнасцю дзейнасць на тэрыторыі краіны Камуністычнай партыі Украіны.

**Іспанія.** Суд пакараў вядомую ў свеце 82-гадовую оперную спявачку Мантсерат Кабалье 6 месяцамі турмы за ўхіленне ад выплат падаткаў з адтэрміноўкай прыгавору на 2 гады.

**Ізраіль.** На цэнтральнай плошчы горада-пабраціма Брэста Ашдода ўрачыста адкрылі помнік класіку беларускай літаратуры Я. Купале, а брэстчане летась – прэм'еру М. Бегіну.

**Казахстан.** Рэтрансляцыя расійскіх тэлеканалаў у краіне стала практычна немагчымай пасля змен у законе, падпісаных Н. Назарбаевым, РФ страціла гледачоў і ва Украіне.

**Расія.** Даследванні вучоных-сацыёлагаў "Левада-Цэнтр" выявілі, што давер расіян да інфармацыі пра бягучыя падзеі з дзяржаўных тэлеканалаў рэзка ўпаў з 79 % да 41 %.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка РБ С. Багданкевіч заявіў, што пры самым лепшым раскладзе напрыканцы 2016 года курс долара будзе 20 тысяч рублёў, бо сітуацыя вельмі няпростая.

**Бабруйск.** Доктар палітычных навук П. Усаў папярэдзіў, што сёлета, хутчэй усяго, расійская авіябаза ў нас з'явіцца, інакш Крэмль пачне дзейнічаць з пазіцыі сілы і санкцый.

**Любань.** З-за праблем з фінансамі спыніліся работы па ўзвядзенню інвестарам, расійскім алігархам М. Гуцэрыевым, новага калійнага камбіната, запуск на 2020 год пад пытаннем.

**Шклоў.** Каб выйсці з ізалятара на хатні арышт, былая намесніца дырэктара па маркетынгу ААТ "Александрыйскае" вярнула ў дзяржбюджэт да 200 тысяч USD нанесенага ўрону.

**Магілёў.** Большасць акцыянераў швейнай фабрыкі "Вяснянка" прагаласавалі на сходзе супраць пачатку працэдуры банкротства, бо атрымалі заказы на бліжэйшыя 3 месяцы.

**Валожын.** Міліцыя арыштавала намесніка старшыні райвыканкама па будаўніцтву і ЖКГ за падпісанне "ліпавых актаў" выкананых работ і атрыманне хабару ў суме 10 млн. рублёў

**Мінск.** Фінансавы аналітык В. Іасуб паведаміў, што МВФ заяўляе аб неабходнасці рэформ пенсійнай сістэмы Беларусі, а не патрабуе павысіць пенсійны ўзрост беларусаў.

**Ганцавічы.** Суд пакараў былога начальніка Акадэміі МУС Беларусі 2 гадамі турмы з адтэрміноўкай на 1 год за забойства па неасцярожнасці ноччу сябра падчас палявання.

**Мінск.** Пуцін вызначыўся, як заявіў палітолаг А. Паратнікоў, што Расія прынцыпова не будзе плаціць Беларусі за размяшчэнне авіябазы, аргументы беларусаў Крэмль не слухае.

**Гомель.** Пасля трагедыі з пенсіянерам, якога загрызла зграя сабак, 4 брыгады работнікаў "Спецкамунтранса" пачалі адлоў і адстрэл у горадзе і ваколіцах усіх бадзяжных сабак.

**Ліда.** Чатырох грамадзян Расіі суд пакараў рознымі тэрмінамі зняволення за арганізацыю нелегальнай міграцыі некалькіх груп в'етнамцаў на тэрыторыю суседняй Літвы.

**Мінск.** Да парламенцкіх выбараў, як папярэдзіў эканаміст Я. Раманчук, пазбавяцца работы яшчэ 20 тысяч прадпрымальнікаў і стануць "дармаедамі", грознай палітычнай сілай.

**Пружаны.** Пачалося следства па факту гібелі на пажары ў вясковым доме пакінутых пад вечар маці-жывёлаводам без нагляду двух дзяўчынак ва ўзросце 3-х і 4-х гадоў.

**Мазыр.** За незаконную рыбалку на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка і вылаў 77 шчупакоў і лінёў двух гараджан пакаралі штрафам 128 млн. руб.

**Брэст.** Старшыня праўлення ФК "Дынама" А. Сцепаненка пацвердзіў крытычную сітуацыю ў клубе, яго пакінулі 12 вядучых ігракоў, у суды падалі іскі па даўгах.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагентств і інтэ–рнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі на трацінy падаражэў праезд на чыгунцы



■ FINANCE.TUT.BY

**У Беларусі ў сярэднім на 33% падаражэў праезд на чыгунцы. Павышэнне тарыфаў прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі №70, якая была апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале 22 снежня і ўступіла ў сілу праз тры дні пасля афіцыйнага апублікавання.**

Падаражанне закранула праезд на гарадскіх і рэгіянальных лініях эканомкласа, на рэгіянальных лініях бізнас-класа, міжрэгіянальных лініях, а таксама перавозку багажу на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях чыгункі.

Так, тарыф на праезд на гарадскіх лініях па адным напрамку павысіўся з 6,6 да 8,8 тысячы рублёў (у межах аднаго тарыфнага пояса). У гэтульki, напрыклад, абыйдзецца паездка ад станцыі Мінск-Пасажырскі да станцыі Беларусь, Фаніпаль, Гарадзішча, Міханавічы, або ад станцыі Брэст-Цэнтральны да Жабінкі.

Тарыф на праезд на гарадскіх лініях па адным напрамку павысіўся з 7,8 да 10,4 тысячы рублёў (у межах двух тарыфных паясоў). Па такім кошце можна дабрацца, да прыкладу, ад станцыі Мінск-Пасажырскі да Рудзенска (пры праездзе пасажыра праз Міханавічы).

Тарыф на перавозку пасажыраў па двух напрамках змяніўся з 13,2 да 17,6 тысячы рублёў (у межах двух тарыфных паясоў), з 14,4 да 19,2 тысячы (у межах трох тарыфных паясоў) і з 15,6 да 20, 8 тысячы рублёў (у межах чатырох тарыфных паясоў).

На рэгіянальных лініях эканомкласа тарыф за адну зону цяпер складае 1600 рублёў замест цяперашніх 1200 рублёў, за 1 кіламетр - 160 рублёў замест 120 рублёў.

На 33% павялічыўся тарыф на перавозкі пасажыраў у цягніках рэгіянальных ліній бізнас-класа, а таксама ў цягніках міжрэгіянальных ліній эконом- і бізнас-класа Таксама павялічыліся тарыфы на перавозку багажу і грузабагажу на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях. Так, кошт дастаўкі багажу ў залежнасці ад адлегласці і масы вырасла на 33%, а з абвешчанай каштоўнасцю, якая спаганяецца дадаткова да тарыфаў на перавозку багажу, - ад 25 да 33%.

У Міністэрстве эканомікі адзначылі, што пастанова №70 прынята з мэтай паэтапнай ліквідацыі стратнасці перавозак пасажыраў па чыгунцы і ліквідацыі склаўшыхся дыспрапорцый у кошце праезду чыгуначным і аўтамабільным транспартам.

Раней рашэнне аб павышэнні кошту праезду на чыгунцы прымалася ў сакавіку 2014 года. Тады цэны на квіткі ў сярэднім выраслі на 30%. Адзначым, што з пачатку гэтага года кошт праезду ў цягніках міжнародных зносін, па дадзеных Белстата, знізіўся на 1,8%. Так, з 15 кастрычніка БЧ па ўзгадненні с ААТ «Расійскія чыгункі» ўзаемна знізілі кошт праезду пасажыраў. Скідкі, у сярэднім 12%, будуць дзейнічаць да канца бягучага года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На заводзе радыёдэталей "Маналіт" пабываў першы віцэ-прэм'ер урада РБ В. Мацюшэўскі і паабяцаў заводчанам падтрымку, але ў 2016 г. беларусам лягчэй не стане.

**Варапаева.** З-за адсутнасці заказаў на прадукцыю прыпыніў сваю дзейнасць завод жалезабетонных вырабаў, рабочых і служачых адправілі ў вымушаны водпуск да вясны.

**Сянно.** Кіраўніцтва вобласці зноў направіло ў райцэнтры выязны штаб па падрыхтоўцы да "Дажынак-2016", тут узвядуць новы ЗАГС, абновяць парк, сквер, ФАК і гарстадыён.

**Наваполацк.** На пасадзе намесніка прэм'ер-міністра Беларусі па сацыяльнай сферы А. Лукашэнка вырашыў пакінуць зноў былога старшыню гарвыканкама Наталлю Качанаву.

**Віцебск.** Частку зарплаты работнікам мясцовага "Жылбуда" выдалі сертыфікатамі на абутак фірмы "Марко", якая адкрыла першы ў РБ лагістычны цэнтр і цэнтр распрадаж.

**Полацк.** Мясцовы малочны камбінат атрымаў 2 залатыя медалі XXIV Міжнароднай выставы ежы "Петэрфуд-2015" і заключыў новы кантракт на пастаўкі ў Санкт-Пецербург.

**Обаль.** Глава вобласці М. Шарстнёў пабываў на мясцовым керамічным заводзе, дзе па праграме мадэрнізацыі запускаюць новую лінію па вытворчасці сучаснай цэглы.

**Браслаў.** З-за дрэнных умоў захоўвання Камітэт дзяржкантролю забараніў рэалізацыю прадукцыі раслінаводства стабілізацыйнага фонда на зімовы перыяд мясцовага райпо.

**Глыбокае.** У доўга пуставаўшым будынку ў раённым цэнтры ўрачыста адкрылі прыватную ветэрынарную клініку "Айбаліт" з заамагазінам, лабараторыяй і аперацыйнай для жывёл.

**Расоны.** Калектыў мясцовага лясгаса шчыра павіншаваў ветэрана працы, начальніка цэха дрэваапрацоўкі Вольгу Секач з узнагароджаннем медалём "За працоўныя заслугі".

**Верхнядзвінск.** У мясцовым РДК прайшла прэзентацыя кнігі краязнаўцы Антона Бубалы "Па слядах вогненных вёсак" пра лёс 120 цудам выжыўшых землякоў падчас вайны.

**Паставы.** Настаўніку гімназіі, старшыні райарганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Ігару Пракаповічу прысвоілі званне "Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі".

**Шаркаўшчына.** На працягу тыдня трое членаў экалагічнага клуба Германавіцкай СШ і дырэктар заказніка "Ельня" І. Барок былі на Міжнародным кангрэсе эколагаў у Расіі.

**Віцебск.** Міністэрства культуры Беларусі дазволіла аднавіць у цэнтры горада разбураны бальшавікамі шэдэўр архітэктуры – касцёл св. Антонія, хутка асвецяць яшчэ адзін храм.

**Наваполацк.** Камітэт па статусу і пераходах ігракоў забараніў ФК "Нафтан" набываць новых футбалістаў да моманту пагашэння існуючых даўгоў па зарплаце і прэміяльных.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Іспанская дзяўчына Ангела Эспіноза Руіс самастойна вывучыла беларускую мову і піша на ёй прыгожыя вершы

Нядаўна напісала новы верш – санет.



Нябеснай калыханкай засынае
Павольна сонца між духмяных руж,
І ззяе зорка закаханых душ,
І ветрык летні ў садзе заціхае.

Стаіць у садзе старажытны дуб,
Паміж галінаў клетка залатая,
А ў клетцы плача птушачка начная,
Як згублены ў сумневах самагуб.

І гэта толькі ты, мая турма,
Бо жарсць твая ўзяла мяне ў палон.
Як птушка на самоце сэрца б'е.

Ты кветка дня, ты рэха салаўя,
Мая няволя – цуд мой, ды праклён,
Гучыць мой сумны голас для цябе.

*facebook.com/angela.espinosa.ruiz*

## У Беларусі прынята рашэнне пра перанос працоўных дзён у 2016 г.

**Савет Міністраў Беларусі зацвердзіў графік пераносу працоўных дзён у 2016 годзе. Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове ўрада ад 23 лістапада 2015 г №976, паведамляе БелТА.**

Так, працоўны дзень з пятніцы 8 студзеня пераносіцца на суботу 16 студзеня.

Такім чынам, на праваслаўныя Каляды выхаднымі будуць 7, 8, 9 і 10 студзеня.

Акрамя таго, працоўны дзень з панядзелка 7 сакавіка пераносіцца на суботу 5 сакавіка.

Таксама варта дадаць, што ў 2016 г. Радаўніца будзе адзначацца 10 мая (бо праваслаўны Вялікдзень – 1 мая), адпаведна, у гэтым месяцы нас чакаюць вялікія выхадныя: з 7 па 10 мая (з улікам таго, што 9 мая – панядзелак).

Арганізацыям дадзена права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос рабочых дзён у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам, дадае *БелТА*

## У Расіі знішчылі 30 тон шампіньёнаў з Беларусі

Агенты Рассельгаснагляда знішчылі больш за 30 тон свежых шампіньёнаў. Яны былі ўвезеныя з Беларусі, але расійскія «нагляднікі» мяркуюць, што яны з Польшчы. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні рэгіянальнай управы нагляднага ведамства па Растоўскай вобласці.

Шампіньёны былі дастаўлены ў Расію дзвюма партыямі.

«У прычэпе на бачнай частцы грузу сапраўды знаходзіўся аднаразовы пластыкавы посуд, аднак, пры далейшым наглядзе ўнутры прычэпа выяўленая прадукцыя – грыбы свежыя (шампіньёны), з наяўнасці этыкеткі, якая змяшчае інфармацыю «шампіньёны свежыя, краіна паходжання – Польшча», – прыводзяцца ў паведамленні падрабязнасці дастаўкі першай партыі грыбоў.

Маса першай партыі складала 14,76 тон, другой – 16,7 тон. Другая партыя суправаджалася дэкларацыяй, згодна з якой вытворцам прадукцыі з'яўлялася фермерская гаспадарка з Беларусі «Грыбная краіна».

«Дэкларацыя не зарэгістраваная ў сістэме Расакрэдытацыі, пратакол выпрабаванняў адсутнічае. Супрацоўнікамі ДПС аўтамабіль затрыманы і змешчаны на адказнае захоўванне», – гаворыць паведамленне.

*nn.by*

## Указам Лукашэнкі 2016 год аб'яўлены ў Беларусі Годам культуры

**Аляксандр Лукашэнка 28 снежня падпісаў указ №522 «Аб аб'яўленні 2016 года Годам культуры».**

Як паведамляе прэс-служба Прэзідэнта, указ прыняты «ў мэтах аб'яднання інтэлектуальных і духоўных сіл грамадства для вырашэння задач сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, захавання гісторыка-культурнай спадчыны, развіцця народных традыцый, выхавання ў грамадзян любові да Айчыны, а таксама падтрымкі творчых ініцыятыў».

Ураду даручана сумесна з аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам распрацаваць і зацвердзіць рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні ў 2016 годзе Года культуры, які закранае ўсе сферы дзейнасці (культура вытворчасці і земляробства, культура сямейных адносін і побыту, культура абуладкавання населеных пунктаў).

Значная ўвага будзе нададзена мерапрыемствам у сферы мастацкай культуры. Таксама прадугледжваецца комплекс мерапрыемстваў, звязаных са знакавымі для культуры Беларусі юбілейнымі датамі.

***БелаПАН.***

### 2016 – год Агністай Малпы

## У віцебскім заапарку – паломніцтва да малп

**У гэтыя выходныя віцябляне і госці горада як быццам вырашылі, што не ўбачыць жывы знак 2016-га – значыць, не прыцягнуць да сябе поспех. А таму дарослыя і дзеці спяшаюцца паспець выказаць свае сімпатыі самаму маленькаму насельніку заапарка – дзіцяню яванскіх макак.**



Ён з'явіўся напачатку снежня, і доўгі час бацькі Люся і Вася хавалі ад навакольных пол свайго дзіцяня. Дырэктар заапарка Ірына Арлова распавядае – зараз інтрыга раскрытая:

— *У перадпачатку года Агністай Малпы ў яванскіх макак нарадзіўся менавіта сыночак. Гэта сімвалічная падзея для ўсяго нашага заапарка. Імя маляню пакуль не далі, але абавязкова зробім гэта да наступлення Новага года. У выбары імя актыўна ўдзельнічаюць гараджане – па традыцыі мы робім гэта разам. Тата і мама кранальна клапоцяцца пра нованароджанага, так што пра яго стан здароўя мы не перажываем.*

Для малпачак у прасторнай хатцы ўсталявалі новую печку, меню макак разнастаілі за кошт сухафруктаў і зеляні. Але галоўнай славутасці заапарка такая ежа пакуль не патрэбная, – ён пазіруе фатографам і лопае мамчына малако. Дарэчы, маленькі сыночак – ужо трэцяе дзіця ў сям'і старажылаў Васі і Люсі. Пара існа за дачкой, жартуюць супрацоўнікі заапарка…

***Алена БЕГУНОВА,***

Фота: «Віцебскія весткі»

## Банкі Беларусі спыняюць абмен банкнот наміналам 50 рублёў, якія выводзяцца з абарачэння

**31 снежня 2015 года завяршаецца перыяд абмену банкамі Беларусі банкнот наміналам 50 рублёў узору 2000 года, якія выводзяцца з абарачэння, нагадвае Нацыянальны банк.**

З 1 студзеня па 30 чэрвеня 2016 года ўключна абмяняць названыя банкноты можна без абмежаванняў і без збірання камісійнага ўзнагароджання ў любой суме, кратнай 100 рублям, толькі ў структурных падраздзяленнях Нацыянальнага банка па наступных адрасах: г. Мінск, вул. Талстога, 6; г. Брэст, вул. Леніна, 9; г. Баранавічы, вул. Савецкая, 77; г. Пінск, вул. Першамайская, 44; г. Віцебск, вул. Леніна, 17; г. Полацк, пр-т Ф.Скарыны, 2; г. Гомель, вул. Савецкая, 9; г. Гродна, вул. Карбышава, 17; г. Магілёў, вул. Ленінская, 50; г. Бабруйск, вул. Савецкая, 85.

З 1 ліпеня 2016 года банкноты наміналам 50 рублёў узору 2000 года будуць лічыцца несапраўднымі.

***Аляксей Арэшка, БелаПАН.***

### Актуальна і для нас!

## Цэны на бензін у Польшчы працягваюць зніжацца

**Цэны на паліва ў Польшчы працягваюць падаць. Гэта звязана з сітуацыяй на сусветных рынках нафты, цэны якой самыя нізкія з 2004 года.**

Як паведамляе Польская палата прадпрымальнікаў паліўнага сектара, сярэдні кошт дызельнага паліва ў Польшчы складае 4 злотыя за літр (каля 1 даляра), бензіну – 4 злотыя 21 грош (каля $1,05), а газу – 2 злотыя за літр (каля $0,5).

Пададзеных арганізацыі, цэны на паліва ў Польшчы ў сярэднім упалі на 40-53 грошы за літр, у параўнанні са снежнем 2014 года.

Варта адзначыць, што цэны ў Польшчы на паліва ў кожным рэгіёне розныя. Традыцыйна дызельнае паліва танней за ўсё набываць у Сілезіі, а даражэй за ўсё ў Заходне-Паморскім ваяводстве. Тое ж самае і ў выпадку з бензінам. У той жа час аўтагазам выгадней за ўсё запраўляцца ў Малапольскім ваяводстве.

***radiopolsha.pl***

# Айцец Сяргей Мацюшонак: Дзякуючы яму ваша вёска стала вядомай не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі...

## У Мосары адзначылі 90-годдзе з Дня нараджэння ксяндза Юозаса Булькі



**У Глыбоцкім раёне 27 снежня адбыліся мерапрыемствы ў гонар ксяндза Юозаса Булькі, 90-годдзе з Дня нараджэння якога адзначалася ў гэты дзень.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

У касцёле святой Ганны 27 снежня а 13 гадзіне адбылася святая Імша, прысвечаная памяці святара.

На ўрачыстасці быў запрошаны біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, але, на жаль, ён не змог прыехаць асабіста. Таму ўрачыстую Імшу ўзначаліў прадстаўнік біскупа айцец Сяргей Мацюшонак, які з'яўляецца афіцыялам біскупскага суда.

На святкаванне юбілею сабраліся не толькі жыхары мосарскай парафіі, але і прыехала шмат гасцей.

У сваім слове да вернікаў айцец Сяргей звярнуў увагу на праблемы сям'і ў сучасным свеце, бо 27 снежня ў каталіцкім касцёле адзначаецца Дзень сям'і, а таксама адзначыў, як дзейнасць аднаго чалавека можа змяць навакольны свет.

У якасці прыкладу ён прывёў дзейнасць ксяндза Юозаса Булькі. Ён быў літоўцам, але вельмі любіў беларускі народ.

Як адзначыў айцец Сяргей:

– Ён, калі прыехаў да нас на Глыбоччыну, стаў выцягваць наверх усё лепшае, што ёсць у нашым народзе. І працаваў над тым, каб выкараніць тое дрэннае, што ёсць у нашым народзе. Гэта і п'янства, і разводы. Бо можа на мерапрыемстве пра гэта мала гаварылі, але ксёндз Юозас удзяляў вялікую ўвагу праблемам сям'і ў сучасным свеце.

Пасля Імшы на магілу святара былі ўскладзеныя кветкі, святар прачытаў малітву, а пасля ўсіх запрасілі на працяг мерапрыемства, якое адбывалася ў Доме культуры ў вёсцы Удзела.

Варта адзначыць, што мерапрыемства было падрыхтаванае мясцовымі ўладамі. Як адзначыў прадстаўнік біскупа айцец Сяргей Мацюшонак, гэта вельмі радуе, што прадстаўніку каталіцкага Касцёла ўдзяляецца такая вялікая ўвага, гэта паказвае яго заслугі не толькі перад Касцёлам, але і перад жыхарамі нашага раёна. І не толькі нашага раёна, але і ўсёй Беларусі.

Далей мерапрыемства праходзіла ў Удзелаўскім Доме культуры. На ім выступілі айцец Сяргей Мацюшонак як прадстаўнік Віцебскай дыяцэзіі, ксёндз Марат Казлоўскі, які зараз служыць у Мосарскай дыяцэзіі, старшыня Глыбоцкага райсавета Галіна Унуковіч, а таксама людзі, якія добра ведалі ксяндзапрэлата Юозаса Бульку. Гэта і ўрач Казімір Яцына, якога ксёндз Булька лічыў сваім сябрам, і старшыня Удзелаўскага сельсавета Віктар Карман, Марына Ткачонак, якая зараз працуе экскурсаводам культурна-дэндралагічнага комплексу ў вёсцы Мосар, сям'я Кудрашовых, муж і жонка, якія вянчаліся ў ксяндза Булькі.

Мерапрыемства пачалося і завяршылася выступам народнай харавой капэлы Глыбоцкага гарадскога Дома культуры пад кіраўніцтвам Дар'і Волкавай.



Юозас Булька нарадзіўся 27 снежня 1925 года ў Новасвянцянскім раёне ў вёсцы Рыпайчай у сям'і селяніна-серадняка. Пасля вайны працаваў на віленскай фабрыцы электрычных лічыльнікаў. Пасля выхаду на пенсію ў канцы 1980-х гадоў стаў святаром. Пасля высвячэння ксёндз па запрашэнню арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча прыехаў працаваць у Беларусь і больш за 20 гадоў служыў у Мосарскай парафіі.

Юозас Булька стаў шырока вядомы ў Беларусі і за яе межамі як прапагандыст здаровага ладу жыцця. Святар шмат чаго зрабіў для добраўпарадкавання Мосара: па яго ініцыятыве ў вёсцы быў створаны Крыжовы шлях, стадыён, страусіная ферма, дэндрапарк, перад касцёлам Св. Ганны ўзведзены помнік Яну Паўлу II. Усё гэта зрабіла Мосар вядомым далёка за межамі Глыбоччыны, сюды стала прыязджаць шмат турыстаў.

У 2005 годзе Юозас Булька стаў першым беларускім ксяндзом, узнагароджаным прэміяй «За духоўнае адраджэнне». У 2006 годзе ўказам Прэзідэнта Булька быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за ўмацаванне духоўных каштоўнасцяў і прапаганды здаровага ладу жыцця.

Сваю прэмію ксёндз патрацію на ўсталяванне першага ў Беларусі помніка папу Яну Паўлу II і самага высокага ў Беларусі каталіцкага крыжа.

Апошнія гады жыцця ксяндза былі азмрочаны тым, што ўлады Літвы абвінавацілі яго ў супрацоўніцтве з органамі савецкага МГБ у 50-х гадах мінулага стагоддзя і выдалі ордэр на яго арышт. Беларускія ўлады адмовіліся выдаць ксяндза Літве. Сам Юозас Булька адмаўляў гэтыя абвінавачванні.

Памёр ксёндз-прэлат Юозас Булька 9 студзеня 2010 года, пахаваны каля касцёла ў Мосары.

# Аматары БМВ з Глыбокага і Паставаў падаравалі святочны настрой дзецям з прытулку ў Станулях

**У суботу, 26 снежня, аматары нямецкіх аўто маркі БМВ з Глыбокага і Паставаў сабраліся разам, каб зрабіць свята для дзяцей, якія знаходзяцца ў Станульскім дзіцячым прытулку.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Спачатку ўдзельнікі акцыі сабраліся на Цэнтральнай плошчы ў Глыбокім, дзе да іх далучыліся прадстаўнікі з суседніх Паставаў. Пастаўчане прывезлі з сабой Дзеда Мароза і Снягурку, прадстаўнікі з Глыбокага арганізавалі дыджэя, які таксама быў у касцюме Дзеда Мароза.



Пасля гэтага ўсе паехалі ў Станулі, дзе яны ўручылі дзецям падарункі, арганізавалі святочную дыскатэку для дзяцей і накрылі для іх салодкі стол.

Незадоўга перад каляднымі святамі ўдзельнікі «Клуба аматараў БМВ» (аказваецца, ёсць такія клубы ў Глыбокім і Паставах) сабралі сродкі і замянілі ўваходныя дзверы ў дзіцячым прытулку, бо старыя не адпавядалі нормам пажарнай бяспекі.

Клуб аматараў БМВ стварыўся ў Глыбокім у мінулым годзе, у жніўні падабны клуб узнік у Паставах. Яго ўдзельнікі збіраюцца, каб разам праводзіць час па інтарэсах, пад час адной з сустрэч было вырашана дапамагчы дзецям з прытулку.

У будучым яны плануюць рэгулярна дапамагаць дзецям з гэтай установы, якіх зараз у Станулях дзевяць чалавек. Самаму малодшаму дзіцяці – два з паловай гады, самай старэйшай – шаснаццаць.

Арганізавалі мерапрыемства глыбачанкі Вольга Будкіна і Вольга Лобкіс.

Муж Вольгі Лобкіс быў ініцыятарам стварэння гэтага клуба, але зараз ён быў у рэйсе, таму яго справу падтрымала жонка.



# Зімовыя рыбалка і паляванне

## На жаль, правілы бяспекі часта пішуцца крывёю



**Вось і наступілі першыя доўгачаканыя маразы, на вадаёмах ужо з'явіўся лёд, і рыбаловы-аматары з нецярпеннем чакаюць адкрыцця зімовай рыбалкі.**

■ **Аляксей Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Таму супрацоўнікі міжраённай інспекцыі лічаць неабходным нагадаць грамадзянам аб захаванні прыродаахоўнага заканадаўства і асабістай бяспекі на першым лёдзе. Як толькі лёд скоўвае вадаёмы, і каля берага можна хадзіць, рыбаловы накіроўваюцца на рыбалку, пры гэтым забываючы аб усіх існуючых правілах рыбалоўства і асабістай бяспекі.

Рыбакі з жэрліцамі дапускаюць перавышэнні дазволенай колькасці жэрліц, жэрліцы не падпісаныя, яны ажыццяўляюць лоўлю без неабходных дакументаў на вадаёмах, на якіх інтэнсіўная лоўля рыбы дазволеная, вакол месцаў рыбалкі ўтвараюцца цэлыя горы смецця. Часам складваецца ўражанне, што на рыбалку ходзяць для таго, каб выкінуць хатняе смецце. Усё гэта разглядаецца як парушэнне і цягне адміністрацыйную адказнасць да 20 базавых велічынь, інспектары ўзмоцняць працу па спыненні выкіду смецця на лёдзе.

Для аматараў пакатацца па вадаёмах на транспартных сродках (квадрацыклы, мапеды, матацыклы, аўтамашыны) хочацца нагадаць, што такія асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці – штрафу ў памеры 20 базавых велічынь. Перасоўваючыся на тэхніцы па возеры, вы не толькі парушаеце прыродаахоўнае заканадаўства, але і падвяргаеце сваё жыццё і жыццё блізкіх людзей небяспецы.

Ідучы на першы неакрэплы лёд, вазьміце з сабою элементарныя сродкі выратавання: вяроўку з грузам на канцы, дошку, выратавальную камізэльку, бо зараз прамысловасць выпускае досыць кампактныя і лёгкія камізэлькі. Памятайце пра сваю асабістую бяспеку.

Хацелася б нагадаць аб правілах бяспекі на паляванні, асабліва на загонным паляванні. Правілы тэхнікі бяспекі на паляванні, на жаль, напісаныя крывёй саміх паляўнічых і іх строгае захаванне – заклад захавання Вашых жыццяў. Не адзін здабыты звер не варты жыцця чалавека.

Штогод у краіне з-за парушэнняў тэхнікі бяспекі на паляванні гінуць дзясяткі паляўнічых, яшчэ больш атрымліваюць раненні.

За 2015 год інспектарамі выяўлена 76 грубых парушэнняў Правілаў рыбалоўства, у браканьераў канфіскавана амаль 2 км сетак, дзясяткі нератаў, пад'ёмных сетак і іншых забароненых прыладаў рыбалоўства, распачата 7 крымінальных справаў за незаконную здабычу рыбы, сума штрафаў і шкоды перавысіла 500 млн рублёў. Нягледзячы на ўсё гэта, людзі свядома ідуць на злачынствы. Скончыць гэтую тэму хочацца вершамі Сяргея Вікулава.

*Мудра природа! Что и говорить!*
*Ничто от века не творила слепо.*
*Зачем над твердью распахнула небо?*
*Чтоб птицам в воздухе парить!*

*Зачем - о, Боже! Жутко поглядеть! –*
*Она так щедро расплескала воду?*
*Зачем, чтоб рыбам дать свободу,*
*Плодясь, подводным царством овладеть.*

*Но вот она пустила по земле,*
*Гордясь своим уменьем, Человека.*
*«Тебе, - сказала, - все:*
*Моря и реки,*
*Леса и долы - все тебе*
*Навеки!*
*Весь белый свет!*
*И звезды в том числе!*
*Бери!*
*Остри свой разум и владей!»*
*И отошла.*
*И встала за плечами.*

*... Прошли века.*
*Счастливая вначале,*
*Теперь глядит Природа на людей*
*Угрюмо...*
*Словно их не узнает.*
*Глядит, глядит, как будто вопрошает.*
*Глядит - и что-то, кажется, решает...*
*А, может, терпеливо что-то ждет...*



**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон Глыбоцкай міжрайінспекцыі «гарачая лінія»: 2-86-70, моб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-7.**

## Віншаванкі

*Крысціну Вітольдаўну Мацюшонак*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Ну где нам взять такую песню
Найти достойные слова,
Чтоб от горячих поздравлений
Кружилась ваша голова.
Чтоб в этот день Вы вспоминали
Не сумму прожитых всех лет.
И о печалях забывали.
Бог с ними, у кого их нет.
Чтоб в этот день Вы вспоминали
Про то, чем жизнь была светла,
Про все счастливые минуты,
Про все удачные дела.
Так будьте все же впредь судьбой согреты.
И оставайтесь вечно молодой.
Пусть будет долгим ваше бабье лето,
Как вечно небо над землей!

***Калектыў "ВГ"***

*Надзею Маліноўскую*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем в этот день прекрасный,
Любви огромной, неземной!
Что б не был дефицит финансов,
Любимый рядом был с тобой!
Что б мир вокруг твой улыбался,
Глаза сияли ярче звезд!
Тобой что б каждый любовался,
Желаем смеха, а не слез.
Здоровья крепкого, и силы
Для многих дел в твоей судьбе!
Что бы друзья тебя любили!
Желаем счастья мы тебе!

***Родныя***

## «Ахова птушак Бацькаўшчыны» заклікае адмовіцца ад піратэхнікі ў зялёных зонах дзеля ратавання птушак

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) заклікае грамадзян адмовіцца ад выкарыстання піратэхнічных вырабаў у святочныя дні, бо іх ужыванне можа прывесці да гібелі птушак.**

«Ноч – спакойны час, калі большасць птушак спяць. Рэзкі шум, стральба і выбухі палохаюць птушак і прыводзяць да таго, што чароды ўзнімаюцца на крыло і спрабуюць ляцець. Зрабіць гэта ноччу, усляпую і ў стане стрэсу ўдаецца толькі некаторым. Таму кожнае вялікае свята (найперш Новы год) забівае сотні розных птушак», – паведамляе прэс-служба АПБ.

Арнітолагі прапануюць беларусам адмовіцца ад выкарыстання піратэхнікі ў парках, на беразе Свіслачы і ў іншых зялёных зонах, бо там начуюць чароды драздоў, вароніных, снегіроў і іншых птушак. «Многія сустракаюць Новы год на дачах і ў катэджах за горадам, дзе таксама не абыходзіцца без святочных залпаў. У суседніх лясах жыве шмат птушак, для якіх гэты салют можа стаць апошнім у жыцці», – папярэджваюць у АПБ.

Гарадскія феерверкі ажыццяўляюцца з аднаго месца і наносяць прыродзе меншую шкоду, чым салюты і петарды, якія ўзрываюцца ў розных месцах, адзначаюць арнітолагі.

***Анастасія Салановіч,*** *БелаПАН*



## МНС інфармуе

**на 29.12.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 832;
Гібель людзей – 93, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 34;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –592,1 млн. руб.

